

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# наша слова.pdf



**Другі год выдання** **№ 35 (87) 30 жніўня 2023 г.**

# *"Цёплыя вечары... ды халодныя ранкі"*

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

Аб ёй мне баюць казкі-сны
Вясеннія праталіны,
І лесу шэлест верасны,
І ў полі дуб апалены.




Павярнуцца да гэтай спадчыны, згадаць яе, данесці да людзей - такую задачу мае Фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага "Цёплыя вечары ды халодныя ранкі", які ў 4-ты раз праходзіў у аграмястэчку Мажэйкава Лідскага раёна.






Сёлета асаблівы фестываль, бо споўнілася як раз 100 год з дня нараджэння Земавіта Фядэцкага. Наш славуты зямляк нарадзіўся 22 жніўня 1923 года ў маёнтку Лебяда, непадалёк ад Мажэйкава. Тут правёў дзяцінства і перажыў вайну.У 1942-1943 гадах Земавіт Фядэцкі жыў у вёсцы Феліксава. І цяжкія часіны вайны не перашкодзілі яму, акрамя іншых спраў, яшчэ і запісваць у сшытак феліксаўскія песні.

Земавіт Фядэцкі хаваў рукапіс гэтых песень амаль 50 гадоў, як быццам не было нічога больш каштоўнага, што варта было б схаваць ці вазіць з сабой: і праз вайну, і праз пасляваенную разруху. За ўсім гэтым бачна вялікая любоў Земавіта Фядэцкага да малой радзімы.

І радзіма адказала яму такой жа любоўю. У 2017 годзе быў заснаваны фестываль яго памяці. Пра гэта гаварыла і кіраўнік спраў Мажэйкаўскага сельсавета Людміла Феліксаўна Роўба адкрываючы фестываль.







# "Цёплыя вечары… ды халодныя ранкі"

Аб прыгожай Бандароўне
І аб справах пана
Засталася ў народзе
Песня здавен-даўна.

Словамі нашага песняра, народнага паэта Беларусі Янкі Купалы і распачаўся-такі сам Рэгіянальны фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага.

На сцэну выйшла Алеся Ярунічава. Яна пад фанаграму "Славянская дуда"выканала ўрывак з беларускай думкі (балады) пра Бандароўну са зборніка "Беларускія думкі, звычаі, абрады з Лідскага павета", асноўны збіральнік Уладзіслаў Вярыга. Вярыга запісаў на Лідчыне "Бандароўну" ў 1885 годзе, а Янка Купала напісаў сваю "Бандароўну" толькі ў 1913 годзе.








БЕЛАРУСКІЯ ДУМКІ, ЗВЫЧАІ, АБРАДЫ
з Лідскага павета XIX стагоддзя

*Станіслаў Суднік прэзентуе зборнік "Беларускія думкі, звычаі, абрады з Лідскага павета"*

У нядзелю ранусенка
Дожджык пакрапляя,
Маладая бандаруўна
Валы паганяя.
Гдзе ўзяўся пан канюшы
З сваімі слугамі.
"Павярніся, бандаруўна,
З валамі да хаты".
Наняў, наняў пан канюшы
Музыканты грацi;
То для млодай бандаруўны
Пайсьці пагуляцi.
Маладая бандаруўна
Мела сказацi:
"Я ня маю такой сукні
З канюшым гуляцi".
Купіў, купіў пан канюшы
Дарагую сукню,
Прыслаў, прыслаў пан канюшы
Цераз верную служку.
Маладая бандаруўна
Мела адказацi:
"Я ня маю такой стужкі
Ў гэту сукню класьцi".
Купіў, купіў пан канюшы
Дарагую стужку,
Прыслаў, прыслаў пан канюшы
Цераз верную служку.
Ўцекала бандаруўна
Ў зялёны лесы,
Даганялі бандаруўну
Ашмянскія шляхты;
Ўцекала бандаруўна
Ў зялёныя лугі,
Папалася бандаруўна
Канюшаму ў рукі.
Як даў пан канюшы
Бандаруўня ў плечы,
Паліліся з бандаруўны
Чырвоныя рэчы.
Казаў пан канюшы
Тры дні ня хавацi;
Спасылаў пан канюшы
Па айца і мацi.
Як прышла бандарова
Спляснула рукамі:
"Адгуляла маё дзіця
З тымі дваракамі".
А як прышоў сам бандар,
Тропнуў ён нагою:
"Залажыла маё дзецяя
За ўсіх галавою".

Лідзяне не чулі сваёй "Бандароўны" 130 гадоў, і нарэшце яна прагучала.

Пра зборнік "Беларускія думкі, звычаі, абрады з Лідскага павета" распавёў рэдактар зборніка Станіслаў Суднік, ён жа рэдактар папулярнага на Лідчыне часопіса "Лідскі летапісец". С. Суднік нагадаў, што гэта ўжо трэці лідскі фальклорны зборнік. Акрамя зборніка Земавіта Фядэцкага, які тут перавыдалі ў 2017 годзе, у 2021 годзе выдалі зборнік "Закуй, закуй, зязюленька, рана", складзены з песень запісаных Аленай Іваноўскай у 1905-1912 гг. і апублікаваных у англійскім часопісе "Фальклор", дзе іх знайшоў Леанід Лаўрэш. І да трэцяга зборніка Леанід Лаўрэш таксама прыклаў руку. Тры фальклорныя зборнікі з аднаго павета - гэта добра.

**І нарэшце конкурсная частка.**

Сёлета ў фестывалі бралі ўдзел 17 канкурсантаў (пазалетась было 12).

У намінацыі "**Лепшы дарослы фальклорны ансамбль**" спаборнічалі:

- Народны фальклорны калектыў "Ульяніца"

# "Цёплыя вечары... ды халодныя ранкі"













(Філіяла 'Ганчарскі Дом культуры") з сямейна-побытавай песняй "Ой, аралі хлопцы ніву";

- Фальклорны гурт "Явар" (Філіял "Мажэй-каўскі Дом культуры") з песнямі ”Ой, сівы конь бяжыць”, "Калі каліна не цвіце";

- Народны фальклорны гурт "Талер" (Аддзел рамёстваў і традыцыйнай культуры) з песняй са зборніка Фядэцкага "Ой, ляцелі гусанькі...";

- Вакальны гурт "Надзея" (Філіял "Беліцкі Дом культуры") з песняй "Кіну кужаль на паліцу";

- Клуб народнай культуры "Сяброўкі" (ДУ "Лідскі раённы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва") з песнямі "Ой, у лузе"і "Зялёны лісце, белы каштаны";

- Сямейны ансамбль Ціховічаў (Філіял "Ваверскі Дом культуры") з песняй "Быў у мяне белы конь".

У намінацыі **"Лепшы індывідуальны выканаўца"** (сольныя спевы, дуэты, да 18 гадоў):

- Ева Ціховіч (Філіял "Ваверскі Дом культуры") з песняй "Пасаджу каліну ў полі";

- Дар'я Ваўчок, Эвеліна Бальцэвіч, Алёна Рамук (Філіял "Гудскі цэнтр творчасці і дасугу") з песняй "Сівы голуб".

У намінацыі **"Лепшы індывідуальны выканаўца"** (сольныя спевы, дуэты, пасля 18 гадоў):

- Галіна Сафонава (Філіял "Беліцкі Дом культуры") з песняй "Жыта жала";

- Надзея Ваўковіч (Філіял "Першамайскі Дом культуры") з песняй "Селезень”;

- Наталля Шчаўканогава (Аддзел рамёстваў і традыцыйнай культуры) з песняй “А ўчора з вячора";

- Вера Дзянінічык, Лізавета Бразоўская (Філіял “Ходараўскі сельскі клуб-бібліятэка”) з песняй "Ехалі цыганы";

- Мікалай Сакалоўскі, Зміцер Сакалоў (Філіял "Першамайскі Дом культуры") з песняй "Дунаю, Дунаю!";

- Інэса Парфенчык (Філіял "Бердаўскі культурна-дасугавы цэнтр") з песнямі "Із-пад каменя" і "Мая маменька".

По выніках конкурсу журы ў складзе:

- Лісоўская Таццяна Віктараўна, намеснік дырэктара ДУ “Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці” - старшыня журы;

- Канцавенка Наталля Уладзіміраўна, загадчык аддзела метадычнай і культурна-масавай работы ДУ “Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці” - сустаршыня журы;

- Роўба Людміла Феліксаўна, кіраўнік спраў Мажэйкаўскага сельскага савета;

- Суднік Станіслаў Вацлававіч, рэдактар часопіса “Лідскі летапісец”

вызначыла найбольш таленавітых у намінацыях:

- Народны фальклорны гурт "Талер" (Аддзел рамёстваў і традыцыйнай культуры) У намінацыі "**Лепшы дарослы фальклорны ансамбль**";

- Дар'я Ваўчок, Эвеліна Бальцэвіч, Алёна Рамук (Філіял "Гудскі цэнтр творчасці і дасугу") у намінацыі "**Лепшы індывідуальны выканаўца**" (сольныя спевы, дуэты, да 18 гадоў);




- Мікалай Сакалоўскі, Зміцер Сакалоў (Філіял "Першамайскі Дом культуры") у намінацыі "**Лепшы індывідуальны выканаўца**" (сольныя спевы, дуэты, пасля 18 гадоў).




За папулярызацыю ў інтэрнэт-прасторы традыцыйнай народнай творчасці дыплом атрымала Паліна Селезень.




За папулярызацыю народнай творчасці ў моладзевым асяроддзі дыпломы атрымалі сямейны ансамбль Ціховічаў і Ева Ціховіч.




За захаванне, развіццё і прапаганду традыцыйнай народнай творчасці дыпломы атрымалі Клуб “Сяброўкі” і Інэса Парфенчык.




Астатнія канкурсанты атрымалі дыпломы ўдзельнікаў.

Пакуль журы працавала з канцэртнымі праграмамі выступілі слынная мажэйкаўская “Каханачка” і дзіцячая група “Крынічка”.







А бліскуча вялі імпрэзу Кацярына Вельб і Мікалай Сакалоўскі

***Яраслаў Грынкевіч.***





# XXX Дзень беларускага пісьменства




Юбілейны XXX Дзень беларускага пісьменства будзе прымаць раённы цэнтр Гарадок Віцебскай вобласці 2-3 верасня. Непадалёк ад яго ў вёсцы Астраўляны нарадзіўся Канстанцін Вераніцын - аўтар вядомай сатырычна-гумарыстычнай паэмы "Тарас на Парнасе".

З нагоды свята мясцовыя ўлады правялі грамадскае абмеркаванне і зацвердзілі новую назву цэнтральнага сквера. Галасаванне, якое праходзіла на афіцыйным сайце райвыканкама, паказала, што большасць галасоў была аддадзена за "Вераніцынскі сквер" - у гонар аўтара паэмы. У скверы ўжо знаходзіцца скульптура "Тарас на Парнасе", усталяваная падчас "Дажынак" у 2014 годзе. А па дарозе з Гарадка да вёскі Астраўляны аўтобусныя прыпынкі афармілі ў літаратурным стылі.

***Паводле СМІ.***

# Пісьменнік Уладзімір Арлоў адзначыў 70-гадовы юбілей

25 жніўня пісьменнік Уладзіміра Арлоў адзначыў свой 70-гадовы юбілей.



У 1953 годзе ён нарадзіўся ў Полацку і любоў да роднага горада нясе праз усё сваё жыццё. Хоць часам абсалютна непрадказальна жыццё прымушае мяняць месца жыхарства. Цяпер славуты пісьменнік жыве ў Беластоку, а свой юбілей сустрэў у Празе. З ім паразмаўляў Алесь Аркуш.

- Здаецца, што гэтае дзесяцігоддзе не змарнаванае, напісана не мала кніг. Можна ў гэтым упэўніцца зазірнуўшы на мой сайт arlou.by, глянуць Вікіпедыю, там абноўленыя версіі нядаўна з'явіліся. Там здаецца сапраўды ўсе кнігі пазначаны і розныя іншыя падзеі майго жыцця. Наконт таго, што яшчэ наперадзе, я часта згадваю сваю бабулю ў размовах і творах, незабыўную бабулю Аўгінню. Аповед пра яе завяршае кожнае выданне маіх "Імёнаў Свабоды", бо гэта быў самы галоўны чалавек у маім дзяцінстве. Я лічу, што бабуля Аўгіння была добрай вядзьмаркай, яе парады, урокі зацвердзіў на ўсё жыццё. Яна казала, што нельга абвяшчаць пра тое, што ты збіраешся рабіць, каб не насмяшыць Бога і людзей.

Уладзімір Арлоў - прадстаўнік ужо рэдкай кагорты жывых беларускіх класікаў. Ён вядомы і як празаік, і як паэт, і як аўтар гістарычна-публіцыстычных кніг.

Сапраўды, прачытаць пра Уладзіміра Арлова можна шмат дзе і шмат што, а мы проста віншуем адвечнага змагара за мову і дзяржаву.

Сто гадоў!

# ЛЕТНІЯ ВАНДРОЎКІ "ЭКВАТАРА".
## 23-24.08.23: ВАЎКАВЫСК-ВЯРЭЙКІ-РЭПЛЯ-ВЯЛІКІЯ ЭЙСМАНТЫ-ГУДЗЕВІЧЫ-ПАЧУЙКІ

*Марафонам выступленняў адзначыўся на Гарадзеншчыне Літаратурны клуб "Экватар" 23-24 жніўня бягучага года. За два дні прайшло ажно пяць мерапрыемстваў - розных па масштабе і па колькасці сабраўшыхся на іх людзей, але ўсе яны былі прысвечаны выхаду новай кнігі паэта з маляўнічай вёскі Пачуйкі Мікалая Іваноўскага "Духмяны падарунак".*

**23 жніўня** распачала серыю творчых сустрэч імпрэза ў **Ваўкавыскай раённай бібліятэцы**, арганізаваная яе загадчыцай Наталляй Лешчык. Спадарыня Наталля заўсёды вельмі гасцінна сустракае творчых людзей. Так было і на гэты раз. Пасля чаявання бібліятэкараў з гасцямі імпрэза пачалася. Вядучай мерапрыемства з боку бібліятэкі стала Ірына Кароль, якая пачала з таго, что коратка азнаёміла прысутных з творчай біяграфіяй Мікалая Іваноўскага, пералічыла ўсе яго выдадзеныя кнігі і шчыра павіншавала пачуйскага паэта са з'яўленнем яго новага паэтычнага зборніка. Потым спадарыня Ірына перадала слова віноўніку ўрачыстасці. Але Мікалай Іваноўскі зазначыў, што хоча, каб спачатку выступілі ягоныя госці: Вячаслаў Корбут і Інга Вінарская, якія дапамаглі яму выдаць сем з васьмі выйшаўшых у свет ягоных кніг, а таксама Тарэза Кавальчук. Сказана - зроблена.

Кіраўнік Літаратурнага клуба "Экватар", пісьменнік і журналіст Вячаслаў Корбут распавёў прысутным, што ў кнізе для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнга ўзросту "Духмяны падарунак" ён з'яўляўся рэдактарам і рэдактарам-укладальнікам, асабіста падзяліў выданне на пяць частак. Спадар Корбут прачытаў некалькі асабліва запаўшых яму ў сэрца вершаў з новай кнігі пачуйскага паэта, а потым зазначыў, што перад самым прыездам у Ваўкавыск напісаў верш, прысвечаны гэтаму гораду, з якім і азнаёміў прысутных:



***Распавядае Вячаслаў Корбут***

*Ваўкавыск - тых дзён калыска,*
*Нашай памяці на ўздым.*
*І са мной далёкі, блізкі,*
*А на выгляд - малады.*

*Рупны погляд, і з табою*
*Робім рух у новы час.*
*Светлы, чысты дзень з хадою*
*Наталяе лепей нас.*

*Ваўкавыск дарогай шчасця*
*Крочыць з поспехам найперш,*
*Каб на заўтра не адкласці*
*Крок наперад - гэтак лепш!*

*Сваім людам ганарыся,*
*Горад з існай дабрынёй.*
*Нам у радасці адкрыйся,*
*Сэрцам будзь заўжды са мной!*



***У зале Ваўкавыскай раённай бібліятэкі***

Пісьменніца і журналістка, шэф-рэдактар альманаха "Літаратурны экватар" Інга Вінарская зазначыла, што працавала над макетамі сямі кніг Мікалая Іваноўскага з выдадзеных ім васьмі. Таксама спадарыня Вінарская часцяком пісала ўступныя артыкулы для гэтых паэтычных зборнікаў. Не стаў выключэннем і "Духмяны падарунак": напачатку кнігі змешчаны артыкул Інгі Вінарскай "Падарунак з водарам малой радзімы" - ён і быў прачытаны перад сабраўшыміся. Таксама спадарыня Інга ўзгадала, што некалі прысвяціла верш Мікалаю Іваноўскаму і







*Слова мае Інга Вінарская*

ягоным Пачуйкам, і прысутныя пачулі паэтычны твор "Спявалі там чароўна салаўі…"

Загадчыца бібліятэкі ДУА "Гімназія № 2 г. Ваўкавыска" Тарэза Кавальчук распавяла, што вельмі рада супрацоўніцтву з паэтам Мікалаем Іваноўскім. Яна зазначыла, што правяла ў сваёй гімназіі ўжо некалькі сустрэч школьнікаў розных узростаў з гэтым цікавым аўтарам. Асабліва ж дзецям, па сцвярджэнні Тарэзы Кавальчук, падабаецца кніга Мікалая Іваноўскага "Загадкі на ўсе выпадкі", вельмі яркая і прыгожая. Спадарыня Тарэза нават прачытала прысутным адтуль некалькі загадак, і аўдыторыя іх разгадвала.



*Гаворыць Тарэза Кавальчук*

Віноўнік урачыстасці Мікалай Іваноўскі, канешне, распавядаў пра сваю новую кнігу, дзе галоўнымі героямі з'яўляюцца ўнук і дзед, які ў паэтычнай форме павучае свайго нашчадка, распавядае пра тое, якія бываюць грыбы ды ягады, садавіна і гародніна, апісвае крылатых і чатырохлапых жыхароў роднага краю. Прагучалі вершы: "Вішня", "Журавіны", "Траўнёвы ранак", "Пчаліны спеў", "У госці да баброў" і інш.



*Чытае Мікалай Іваноўскі*

Адметнай рысай мерапрыемства стала прысутнасць на ім загадчыка аддзела ідэалагічнай працы і па справах моладзі Ваўкавыскага райвыканкама спадара Івана Маржалы. Іван Фадзеевіч ад імя Ваўкавыскай адміністрацыі шчыра павіншаваў Мікалая Пятровіча з новай кнігай і ўручыў аўтару каштоўны падарунак.

Але ўвечары **23 жніўня** выступоўцаў чакалі ў старажытных чароўных **Вярэйка**х на яшчэ адну творчую сустрэчу, якая была арганізавана па ініцыятыве мясцовага паэта Віктара Курыловіча. Забягаючы наперад, зазначым што спадар Віктар таксама прысутнічаў на гэтым мерапрыемстве і прачытаў шэраг сваіх глыбокіх, дасканала зробленых вершаў. Непасрэднай жа арганізацыяй сустрэчы займаліся бібліятэкар Вярэйскага дома культуры Тамара Вялічка і рэжысёр з гэтай жа культурнай установы Алена Бязгодава. Жанчыны ветліва і радасна сустрэлі прыехаўшых выступоўцаў. Сустрэча пачалася.



*Выступае Віктар Курыловіч*

Да слова сказаць, і ў Вярэйках, і на на яшчэ трох мерапрыемствах наступнага дня і Вячаслаў Корбут, і Інга Вінарская пачыналі свае выступленні не толькі з распаведаў пра кнігу Мікалая Іваноўскага "Духмяны падарунак" і пра сваю працу над ёй, але таксама чыталі па некалькі вершаў Мікалая Іваноўскага. Потым пераходзілі да сваіх уласных твораў.

У Вярэйках Вячаслаў Корбут прачытаў наступныя свае вершы: "Ці будзе тое?", "Мой жнівень", "Мала песняў, мала спеваў", "У думках запісы хаваю" і інш. Таксама прагучалі байкі "Андруха-уратар" і "Крочыў вучань на ўрок".

Інга Вінарская выказала сваё захапленне прыгажосцю Вярэйскіх пейзажаў. Спадарыня ўзгадала, што







*Летнія вершы чытае Інга Вінарская*

ў яе ёсць цыкл летніх вершаў, змешчаны ў яе кнізе "Гучы, маё сэрца, гучы…", які яна і хоча прачытаць. Аўтарка выканала наступныя паэтычныя творы: "Рамонкавы луг і світанак…", "Дзень вынырнуў, гуляка, з-за вады…", "У спрадвечнасці вечара…", "Рамонкі, макі, васількі…" і інш. Таксама спадарыня Вінарская зазначыла, што ў яе ёсць прыгожы верш пра летнюю залеву, а як усім вядома, Бог - у дажджы…

Сусвет прыціх прад подыхам дажджу
Замёрлі рухі велічных стагоддзяў,
Паветра змоўкне, згледзеўшы мяжу
Залевы, мкне дзятва ад непагоды.

Сцяна вады - цудоўнай сілы вір,
На каштанах аж свечкі задрыжэлі,
Таполі дождж імкнуцца блаславіць,
Да неба іх маркоты паляцелі.

Пірамідальна струнаў чуўся звон…
Вада, вада - там шэпт і шамаценне…
У лужы дзень свой накіруе скон,
Свой вопыт і энергію сталення.

О, час перад дажджом - цудоўны міг,
У покрыве той Боскае залевы...
Вялікі свет! Шчаслівы, хто спасціг
Яго красу - у гэтых летніх спевах!

У выкананні Мікалая Іваноўскага на Вярэйкаўскай імпрэзе



*Мікалай Іваноўскі ў Вярэйках*

прагучалі вершы рознай тэматычнай накіраванасці: пра прыгажосць навакольнага сусвету, пра прыроду, пра каханне, а таксама пра занепакоенасць аўтара сучаснымі варожымі ваеннымі пагрозамі. Прысутныя пачулі творы: "Лёнавая кашуля", "Вяртанне буслоў", "Раніца ля ракі", "Пчолкі", "Зачараваны", "Нам памяць не сцерці", "Мір Беларусі" і інш.

**24 жніўня** да групы нашых выступоўцаў далучыўся падпалкоўнік бранетанкавых войскаў у адстаўцы, кіраўнік Гарадзенскай камісіі па ахове помнікаў Дзмітрый Аўсейчык. Па сумяшчальніцтве Дзмітрый Сяргеевіч - яшчэ і сваяк Мікалая Іваноўскага, муж ягонай сястры. Дык вось, спадар Дзмітрый прыняў удзел у трох наступных выступленнях прадстаўнікоў Літаратурнага клуба "Экватар" - у Рэплі, Вялікіх Эйсмантах і Гудзевічах. Гэта канешне, было эфектна - пабачыць статнага баявога афіцэра ў строгай ваеннай форме з безліччу ўзнагародаў, ад якіх пры руху чуўся лёгкі пераззвон. Таксама было цікава паслухаць, што думае такі бывалы чалавек пра сучасны палітычны стан, пра сяброў і ворагаў нашай дзяржавы…

Але, усё па парадку, калі размова пайшла пра імпрэзы 24 жніўня. З раніцы нашых выступоўцаў чакалі ў гістарычным месцы, знакамітым сваім высокім гатычным касцёлам, - у **Рэплі**. З вялікай радасцю сустрэла завітаўшых да яе пісьменнікаў загадчыца Рэплеўскага дома культуры Марыя Гжэсяк. Выбачалася, што людзей няшмат, бо ўсё ж такі яшчэ лета. Але імпрэза адбылася цёплая і



*Мікалай Іваноўскі і Марыя Гжэсяк*





***Рэпля. I старыя, і малыя***

файная, амаль хатняя.

Распачала сустрэчу Інга Вінарская. Яна зазначыла, што рада зноў выступаць у зале Рэплеўскага дома культуры, бо ён мае чароўную глыбокую акустыку, і вельмі ёй прыемна тут чуць гукі свайго голасу. Спадарыня распавяла пра тое, што выдаваць дзіцячыя кнігі значна больш цяжка, чым дарослыя, бо для іх існуе шмат правілаў і абмежаванняў. Але гэта цікавая справа, і асабліва радасна, калі ў свет выходзяць такія прыгожыя кнігі, як у Мікалая Іваноўскага. У Рэплі Інга Вінарская чытала свае дзіцячыя вершы: "Ледзь ружовым падсечана воблака…", "Нашым коткам…", "Дзяўчынка такая смяшлівая…", "Па слядах Алісы ў краіне цудаў…" і інш.

Тэму складанасці выдання дзіцячых кніг, а таксама падручнікаў падтрымаў Вячаслаў Корбут, які шэраг год кіраваў Беларускім літаратурным фондам і выдавецтвам "Беллітфонд", якім быў выдадзены шэраг падручнікаў для розных школьных узростаў. Дзіцячыя кнігі там выходзілі таксама. Дакладна, розных правілаў і абмежаванняў было нямала, але ўсе падручнікі і кнігі былі выдадзены паспяхова.

У выкананні Вячаслава Корбута прагучалі творы: "Паводкі", "Ізноў наперад", "Матуля", "Крыніца", "Пра роднае", "Балада пра маёра Гаўрылава" і інш.

Мікалай Іваноўскі пачаў сваё выступленне з таго, што падзякаваў Марыі Гжэсяк за шматгадовае плённае з ім супрацоўніцтва. Распавёў, што спадарыня Марыя працуе на пасадзе загадчыцы Дома культуры шмат год, і выказаў спадзяванне, што ягоныя з ёй сяброўскія адносіны захаваюцца і надалей.

Спадар Мікалай прачытаў сабраўшымся наступныя свае вершы: "Знайдзіце мове каляіну", "Юбілей школы", "Шчасце - лекі", "Няпрошаныя госці", "Раніца ля ракі", "Пчалярства - навука" і інш. Не абмінуў Мікалай Іваноўскі і аднайменны верш, які даў назву ягонай кнізе, - "Духмяны падарунак":

*- О, колькі вас мне трэба гушкаць? -*
*Пытала яблынька ў пладоў.*
*Люляла ўчора я ў пялюшках,*
*Цяпер - вы прыгажосць садоў.*

*Духмяны спее падарунак...*
*Хутчэй адчыняцца скляпы,*
*Бо холад мае накірунак,*
*Як вецер гойсае сляпы.*

*Вас зберагчы я не здалею,*
*Згублю лістоту там сама.*
*I гаспадар наш разумее:*
*Пільнуе побач нас зіма.*

*На Новы год ці на Каляды*
*Нясіце смакату садоў.*
*Важней наш яблык шакаладу,*
*Здароўе майце шмат гадоў.*

*Сад сакавіцкі зноў абудзіць,*
*Ён твар памые наш ад сну.*
*Сукенкі вам пабеляць людзі,*
*I стрэнем з кветкамі вясну!*

У абед нашыя творцы завіталі ў **Вялікія Эйсманты**. Там іх чакалі ў Вялікаэйсмантаўскай сярэдняй школе. Вельмі прыгожая навучальная ўстанова: такое адчуванне, што пах кветак адчуваецца здаля… Насамрэч, прыгожых дрэваў і раслін вакол той школы вельмі многа.

На парозе выступоўцаў ветліва сустрэла дырэктарка школы Галіна Аляксееўна Македон. Творцам перад пачаткам мерапрыемства была прапанавана экскурсія па "Музеі земляznaўства "Каменны летапіс Зямлі", які знаходзіцца ў будынку гэтай навучальнай установы. Створаны ён быў па ініцыятыве і пры непасрэдным удзеле настаўніка гісторыі і геаграфіі Леаніда Калесніка. Цяпер Леанід Раманавіч - кіраўнік гэтага музея. Між іншым, экскурсію для гасцей праводзіў непасрэдна ён сам. Вельмі павучальна атрымалася.

Непасрэдна сама імпрэза пачалася цікава. Справа ў тым, што пад кіраўніцтвам настаўніцы беларускай




***Выступае вучаніца 11-га класа Аляксандра Швед***





мовы і літаратуры Ірыны Іванаўны Швед вучні старэйшых класаў часцяком пішуць навуковыя працы, і работы гэты нават перыядычна перамагаюць на розных рэспубліканскіх конкурсах. З адной з такіх навуковых прац пад назвай "Канцэпт "Дом" у лірыцы Мікалая Іваноўскага на прыкладзе зборніка "Пяром і сэрцам" пазнаёміла прысутных вучаніца 11 класа Аляксандра Швед.

Нашы выступоўцы: Вячаслаў Корбут, Інга Вінарская, Мікалай Іваноўскі прачыталі перад сабраўшыміся настаўнікамі, вучнямі, гасцямі мерапрыемства свае вершы. Да праграмы імпрэзы далучылася таксама мясцовая паэтка Галіна Жывіца з паэтычнымі творамі на тэму прыгожосці навакольных краявідаў і любові да роднага краю.



*Галіна Жывіца*



*У Гудзевіцкай сельскай бібліятэцы*



*Імправізаваны дуэт: Яніна Цуркан і Дзмітрый Аўсейчык*

Увечары **24 жніўня** адбылася творчая імпрэза ў **Гудзевіцкай сельскай бібліятэцы**, дзе сабраліся для сустрэчы з пісьменнікамі ўдзелькі мясцовага клуба творчасці "Залаты ўзрост" пад кіраўніцтвам загадчыцы гэтай установы Валянціны Пронькі.

Як і на папярэдніх імпрэзах, гучала шмат вершаў у выкананні Вячаслава Корбута, Інгі Вінарскай, Мікалая Іваноўскага. Але была адна адметная рыса ў гэтай творчай сустрэчы: тут гучалі спевы пад акампанемент баяна, на якім па-майстэрску грала спадарыня Яніна Цуркан. Сярод выкананых аўдыторыяй песень былі творы на вершы Мікалая Іваноўскага: "За цеплыню душы", "Як вы там?" і інш. Падпалкоўнік Дзмітрый Аўсейчык, які таксама выступаў на гэтым мерапрыемстве, з задавальненнем спяваў разам з усімі, а таксама выступіў з невялічкай сольнай праграмай. А спявае ён добра, бо з'яўляецца адным з салістаў Гарадзенскага хору ветэранаў.

Вось такая канцэртная вандроўка па Гарадзеншчыне атрымалася ў сяброў Літаратурнага клуба "Экватар" з нагоды выхаду ў свет кнігі Мікалая Іваноўскага "Духмяны падарунак". Было шмат ўсмешак, апладысментаў, песень і кветак… Дарэчы, кветкі з Вялікіх Эйсмантаў - тры агромністых букета рознакаляровых гладыёлусаў, палевых і барвовых ружаў - шчасна даехалі са сваёй новай гаспадыняй да яе хаты і, несумненна, натхнялі яе сваёй прыгажосцю пры напісанні гэтага артыкула…

***Інга Вінарская.***





*Зміцер Захарэвіч*

# ГУЛІВЕР У КРАІНЕ ВЕЛІКАНАЎ

### ПРА ПАРУШАЛЬНІКА ДЗЯРЖМЯЖЫ

*"На Беларусі Бог жыве…"*
*"Бог пайшоў…"*
*Ул. Караткевіч.*

Бог пайшоў… Паглядам невясёлым
Пазіраў на пакіданы край,
Хоць званіцы цэркваў і касцёлаў
Перад ім замерлі на "Зважай!"

І калі яму з абшараў нашых
Заставаўся ў высі крок адзін,
Раптам тры зялёныя фуражкі:
- Дакуменцікі, грамадзянін.

А ў яго якія дакументы? -
Німб, хітон, сівая барада…
Таму ўрэшце аказаўся "swiety"
У начальніка пагранпаста.

Капітан маўкліва пасміхнуўся:
""Парушальнік", маць вашу іці!"
- Пішуць, Вы жылі на Беларусі.
А цяпер назад - на "небясі"?

Ашалелы, млявы ад няўдачы
Бацька-Бог пачаў распавядаць,
Што ён меўся толькі Сына ўбачыць
І аслаблы Дух умацаваць.

Без якога множацца мячэты,
Ліберасты, юды, левачко…
Капітан папыхваў цыгарэтай
І нібыта думаў пра сваё.

- Змогі жыць тут я зусім не маю, -
Слёзы ледзьве стрымліваў стары, -
Дзе святароў з бажніцаў забіраюць
І замыкаюць за турэмныя муры.

- А мы ж з вамі на назе кароткай! -
У адчаі распаляўся ён. -
Бо стаіць на варце раю Пётра,
Міхаіл - памежнікаў патрон…

Начпаста наліў яму гарбаты,
Папрасіў счакаць, даў запаліць
І камусь гукнуў, крутнуўшы "Тапік":
- Праз мяжу сівога прапусціць!

Ці магло ўсё скончыцца іначай,
Толькі без метафар і прыўкрас?
Капітан у рапарце адзначыў:
"Сёння ўдзень Пан Бог пакінуў нас".

### ШПІЛЬ КАРАЛЕЎСКАГА ПАЛАЦА
**(гарадзенскі раманс-жарт)**

Сплываў па Нёмне залацісты вечар,
Крыжы на Фары гаслі ў паўімгле,
Твае захутаўшы ў шаль зорны плечы,
Я запытаў: "Жыла як без мяне?"

Табе, відаць, неўпершыню прызнацца
Было, і бліснуў позірк мой ад слёз,
Бо шпілем каралеўскага палаца
Працяў каханне твой адказ наскрозь.

Знякавеў, адчуўшы падсвядома:
Каложай гіне еднасць нашых душ,
Таму што дзесь на Фолюшы, удома
Цябе чакаюць два каты і муж.

Дарма на лёсу выбрыкі злавацца,
Суцішу боль, вяртаючыся ў Менск,
Нібы шпіль каралеўскага палаца,
Заўжды адзін, і ты зноў без мяне.

### ХВАЛІ РАКІ ЖЫЦЦЯ…

Хвалі ракі жыцця
У незваротнасць гоніць
Вецер, а тлумны працяг
Заўтра пра іх не ўспомніць.

Без паказных слязін
Сівагрывыя рушаць,
Вербы адно ўслед ім
Хіляць галовы скрушна.

Храмы, муры, млыны
Моўчкі глядзяць староннe
На няспынную плынь
У пазалоце промняў.

Век залаты - міраж:
Сокам брусніц на вуснах
Кроў пунсавела ўсцяж
Ад вытоку да вусця.



Грозна звінела сталь,
Джаліў свінец апабал -
З годнасцю спатыкаў
Кожны бераг сатрапаў.

А ў гады, як сціхаў
Лязгат грымотны зброі,
Зноў раку ахінаў
Жнеяў спеў вечаровы.

Зноўку, бы караблі,
Сінню люстранай хваляў
Гурмы аблокаў плылі
З процьмай вянкоў Купалля.

Вецер хвалі штодзень
Гоніць, дзьме больш сувора,
Ды гарыць на вадзе
Бляск недасяжных зораў.

### ЗНІКЛЫ БЕЗ ВЕСТАК

Імшу справіць па мне
Між аблок укрыжаваны бусел,
Восень след захіне
Лісцем у парудзелую вусціш.
Адылі ў першы снег
На час ценем бясцельным вярнуся,
Покуль не сцебане
Вясна промнямі, каб сысці змусіць.





Пакрысе год міне
У чакання трывожнай задусе,
Без сяброў, без яе
Жыць у згадках і снах навучуся.
З кубка праўда ў віне
Расплывецца крывёй на абрусе,
Аб адхлання цане
З фатакарткі ў свет не дакрычуся.

Астуджаючы гнеў,
У палях ветру ўдосыць нап'юся.
Непазнаны жаўнер,
Бы з сабой у жыцці размінуўся,
Я на вочы ў вакне,
Ідучы са двара, азірнуся,
Што глядзяць скрозь мяне
У давечна пранізлівай скрусе.

### З НІЗКІ "СУПРАЦЬЛЕГЛАСЦІ"

#### "Мінучае і вечнае"

Стагоддзі грозны мур стаяў,
Зубцамі вежаў вышу драпаў…
Цяпер між крушняў узбуяў
Палын, на небе ж - ані латы.

#### "Летуценнае і рэчаіснае"

Нявінны, белы і пухнаты
Ляцеў прынесці радасць людзям,
Але яны яго заўзята
Тапталі, змешваючы з брудам.

#### "Імпэтнае і нярушнае"

На моры шторм кіпіць, гудзе,
За хваляй хваля ў бераг б'ецца,
А па раз'юшанай вадзе
Ашмоццем пена застаецца.

#### "Вялікае і дробнае"

Як быць вялікім лёс не ручыць,
Імкніся існаваць хоць дробным,
Хай ледзь заўважным, бо калючы,
Галоўнае - каб непадробным.

* * *

Спіць блакіт
па-над самотным фортам,
Рып пратэзаў не ўзрушае цішыні.
Адчуваеш, як яна прагоркла
Порахам мінулае вайны?
Да нас тыя, што на фотаздымках
Усміхаюцца з паўзмроку бліндажоў,
Распасцёрлі ветліва абдымкі
Гіпсавымі ротамі крыжоў.

З імі пад гарачым свінцападам
Астуджаліся струменямі крыві,
Ды пашыў Кон шынялі камрадам
З савану магільнае травы…

### ГУЛІВЕР У КРАІНЕ ВЕЛІКАНАЎ

На ласку лёсу кінуты
Камандай у бязвыйсці,
Жыву, для іншых згінулы,
На веліканаў выспе.

Навокал неабсяжныя
Клубы, цягліцы, сэрцы,
Прэч ад якіх, заўважыўшы,
Хаваю дробку-цельца.

Штодзень у пільным сполаху,
Каб вольным заставацца,
Ды глухну ад іх голасу,
Нібыта ад набату.

А струны жыл заходзяцца
У краі высачэнных,
Бо нічыёй не хочацца
Стаць лялькаю кішэннай.

Каб не скакаць пацешліва
Дзвюхногаю блыхою
Прад здзіўленай, насмешлівай
Грамадзін грамадою.

Не буду задаволенай
Прынадай кавалераў
На туалетным століку
Хаця б і каралевы.

Таму, пакуль не злоўлены,
Не страчана нічога -
Надзеямі напоўнены
Ля берага марскога,

Адчаліць згэтуль мроячы
На покліч продкаў даўні,
Ад раніцы да поўначы
Майструю човен збаўны.

### НА ГАДАВІНУ СМЕРЦІ СЕРЖА МІНСКЕВІЧА

Пазбытае цяжво зямных
Варункаў, радасцяў, турботаў -
Прайшоў дарогу ў незваротнасць,
Дзе недарэчныя яны.

Пакінуў нібы без прычын
Пустою над ракой альтанку -
І Зорны Кол, і промні ранку
Патрэбныя адно жывым.

Чуваць адчай у галасах:
"Не заспявае… Не ўсміхнецца…"
Але дарма - пульсуе сэрца,
Стэп адбіваючы ў радках.

* * *

Змятаюць часу смецяры
Уперад стрэчаных абліччы
І на агні ўсяедным нішчаць
Пажоўклыя календары.

Знікаюць вершы і лісты,
Ператвараючыся ў попел,
Які, нібыта рой шматкроп'яў,
Вятрыска ўзносіць дагары.

Пажадна танчаць языкі -
Гарачь трапёткія пачуцці,
З абдымкаў пломня не вярнуцца -
Дымамі сталіся шляхі.

Хаця праз тое не баліць -
Суняў ўражлівасць дыяруш,
Гадамі спраўджаны таварыш,
Адзіны, пэўна, на зямлі,

Дзе без спагады, без пары,
Даводзячы, што ўсё мінецца,
Калішняе з закуткаў сэрца
Змятаюць часу смецяры.

### УЯЎНАЯ ПАГРОЗА

Насоўвалася хмар арда з усходу,
Разводдзем
навальнічным пагражала.
Чакаючы бязлітаснай навалы,
Напяліся і людзі, і прырода.





Прыносіў вецер водгулле грымотаў
І, хочучы з карэннем дрэвы вырваць,
Пярнатых заганяючы пад выгбы,
Выводзіў гімн пранізлівы самоце.

Але, над местам распасцершы крылы,
Цяжарнае залеваю чарноцце,
Яго заўчаснаю накрыўшы ноччу,
Прысады ледзь імжою пакрапіла…

І мы нярэдка, даўшы волю гневу,
Грымім, няздольныя зрабіць што-небудзь.

**НЯЗГОДНЫ ЗАМАЎЧАЦЬ**
**(рандэль-зорка)**

Цяжкі набат надтрэснутага сэрца
У тлуме клопатаў бадай што не чуваць,
Смяёмся, сварымся, абы не заўважаць
Глухі набат надтрэснутага сэрца.

Жахае, нібы казань чужаверца, -
Крый бог услухацца, пачне бо турбаваць, -
Глухі адчай надтрэснутага сэрца,
Якому нельга начны одум даравець.

За тое, што ўзрушае, што нясцерпны,
Глухі адчай пакутлівага сэрца
Міжволі прагнем назаўсёды ўтаймаваць,
Але гудзе ўвушшу, нязгодны замаўчаць,
Глухі адчай пакутлівага скерца.

**У ДАРОЗЕ І СОНЦА**
**(у цягніку Менск - Ліда)**

Маршрут стары ў празрысты жнівень,
Світанак спее за вакном
І сонца-немаўля ў нізіне
П'е прагна росаў малако.

Скрозь краявід не зварухнецца,
У час мінулы плывучы,
Адно праз шыбіну кранецца
Гарэзліва прамень шчакі.

Даўно чаканая сустрэча:
Перон, вакзала мур, сябры,
А шляхам пасталелы светач
Ужо над галавой гарыць.

# Да Дня горада






Да Дня горада на бакавым фасадзе Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы абноўлены інфармацыйны банер. Эскіз Дар'і Марцінкевіч.
***Наш кар.***





# Нашы памяць і боль

Кніга - самая лепшая форма памяці. Генацыд не мае тэрміну даўнасці, а праца, якая праводзіцца ў бібліятэках Лідчыны па гістарычнай спадчыне - гэта жывая памяць для падрастаючага пакалення.

У жніўні ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 4" адбыўся адкрыты дыялог "Боль без тэрміну даўнасці", тэма якога - генацыд беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Удзельнікі мерапрыемства падрыхтавалі тэматычныя выступленні, пасля чаго правялі дыскусію, падчас якой былі ўзняты пытанні аб гістарычнай памяці, подзвігу беларускага народа, зверствах нямецка-фашысцкіх захопнікаў, цане чалавечага жыцця. Таксама ўвазе ўдзельнікаў мерапрыемства была прадстаўлена выстава "Не мае права забыцца". Падабраны матэрыял стаў наглядным тлумачэннем аб самай страшнай старонцы Другой сусветнай вайны - канцлагерах і іх ахвярах.



Пазнаёміць з трагедыяй Халакосту як адным з прыкладаў бесчалавечнай палітыкі нацыстаў была прызвана гутарка "Халакост у асобах. Міхла Сасноўская з Навагрудка", якая прайшла ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 2". Асноўная ўвага на сустрэчы была нададзена дзяўчынцы з Навагрудка, якая стала абагульненым вобразам жудасных ахвяр вайны, якіх знішчалі за тое, што яны другой расы ці нацыянальнасці. А яшчэ гаворка ішла пра мужнасць людзей з навагрудскага гета, якія здзейснілі падкоп і выратаваліся, не скарыліся. Прысутныя пазнаёміліся з помнікам ахвяр Халакосту, які ўстаноўлены ў г. Навагрудак.



У філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 6 імя В. Таўлая" была праведзена гутарка "Генацыд - памяць і боль беларускай зямлі". Удзельнікі мерапрыемства расказалі пра сваё пасляваеннае дзяцінства. Успаміналі аб сваіх уражаннях ад наведвання спаленых вёсак. Гаварылі аб неабходнасці захоўваць мір, помніць тых, хто загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны.



Філіял "Лідская гарадская бібліятэка № 5" запрасіла хлопчыкаў і дзяўчынак на ўрок памяці "Без тэрміну даўнасці". Для ўдзельнікаў мерапрыемства былі прадстаўлены факты і лічбы аб людзях, якія пацярпелі і загінулі ў нямецкіх канцлагерах, а таксама былі прагледжаны дакументальныя відэаматэрыялы з успамінамі тых, хто выжыў, вязняў канцлагера Асвенцым.



Памяць аб падзеях Вялікай Айчыннай вайны, аб злачынствах фашызму на беларускай зямлі трэба захоўваць і перадаваць падрастаючаму пакаленню, каб здабываць урокі з мінулага і не дапусціць паўтарэння генацыду ў сучаснасці і будучыні.

**_Кацярына Сандакова,_**
_бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынгу ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы"._





# У Германіі спросцяць атрыманне грамадзянства




Урад Германіі прыняў закон пра палягчэнне натуралізацыі. Дакумент павінен паступіць на зацвярджэнне парламента, дата пакуль не вызначана, паведамляе тэлеканал N-TV.

Закон быў распрацаваны міністрам унутраных спраў Нэнсі Фезер (СДПГ), ён не толькі змяншае патрабаванні, але і дапускае існаванне падвойнага грамадзянства. Аднак для натуралізацыі па-ранейшаму дзейнічаюць умовы эканамічнай і дэмакратычнай інтэграцыі.

Правядзеннем рэформы ўрад, у прыватнасці, хоча зрабіць Германію больш прывабнай для прафесіяналаў. У той жа час, яна заклікана стымуляваць людзей да таго, каб яны лепш замацаваліся ў краіне і сталі больш прыкметнымі чальцамі грамадства. Падаць заяву на атрыманне нямецкага пашпарта можна будзе ўжо пасля пяці гадоў пражывання.

Лідар рэгіянальнай групы ХСС Аляксандр Добрындт абвінаваціў кіравальную кааліцыю ў легкадумным стаўленні да грамадзянства. Па яго словах, тым самым руйнуецца грамадскі кансенсус апошніх дваццаці гадоў.

На натуралізацыю не могуць разлічваць людзі, якія здзейснілі злачынствы па антысеміцкіх ці расісцкіх матывах. Абавязковай умовай таксама павінна быць тое, што чалавек можа зарабляць на жыццё, як правіла, без якіх-небудзь сацыяльных дапаможнікаў. Пасля прыняцця рашэння кабінетам міністраў законапраект будзе накіраваны ў Бундэстаг. Толькі пасля ўхвалы парламентам ён можа набыць моц.

*Аляксандр Саможнеў.*

*Навіны Германіі*

# У Германіі хочуць адмовіцца ад кітайскага тэлекамунікацыйнага абсталявання



Тэлекамунікацыйным правайдарам неабходна адмовіцца ад выкарыстання тэлекамунікацыйных камплектаў, прапанаваных кітайскім гігантам Huawei, паколькі гэта стварае пагрозу бяспецы, заявіла міністр унутраных спраў Германіі Нэнсі Фезер.

Па дадзеных выдання Politico, нежаданне нямецкага ўрада ўводзіць цвёрдыя абмежаванні на выкарыстанне Huawei раздражняла Вашынгтон і прадстаўнікоў службаў бяспекі ў апошнія гады. Германія, якая з'яўляецца найбуйнейшай эканомікай Еўропы, па-ранейшаму моцна залежыць ад Кітая ў вобласці тэлекамунікацыйных сетак, гаворыцца ў справаздачы кансалтынгавай кампаніі Strand Consult.

Зараз Берлін уводзіць новыя меры бяспекі ў адносінах да кітайскіх тэхналогій у тэлекамунікацыйных сетках. Прынята рашэнне праверыць усе кампаненты пастаўшчыкоў тэлекамунікацыйных паслуг Huawei і ZTE, якія маюць адносіны да бяспекі. Нібыта кітайскія тэхналогіі дазваляюць кантраляваць энергаспажыванне.

Любыя абмежаванні на выкарыстанне абсталявання Huawei доўгі час сутыкаліся з супраціўам з боку буйных тэлекамунікацыйных правайдараў, такіх як Deutsche Telekom. Яны асцерагаюцца, што адмова ад кітайскіх пастаўшчыкоў тэлекамунікацыйных паслуг рэзка павялічыць кошт будаўніцтва новых сетак і падтрымання ў працоўным стане існых.

*Аляксандр Саможнеў.*





# Выхаванцы пра ксяндза Талочку

***Ад перакладчыка: Некалькі фрагментаў з газет пачатку 1939 г.***

*1. Па загаду віленскага ваяводы 27 снежня 1938 г. выселены з Вільні беларускія дзеячы кс. Адам Станкевіч і інж. Адольф Клімовіч. … Адначасова выселены і кс. Ул. Талочка. … Беларусы пра ксяндза Уладзіслава Талочку дагэтуль вельмі мала што чулі. Я ён сярод нас даўно жыве і добра працуе. Кс. Талочка гэта тыповы і чыста беларускі характар. Гэта чалавек заходнееўрапейскай культуры. Жыццёвая лінія гэтага чалавека - каталіцкая. Праўда і справядлівасць ў гэтага ксяндза стаяць на першым месцы.*

*Chryscijanskaja dumka. №1 (185), 2 studzienia 1938.*

*2. З рэдакцыйнага артыкул галоўнага рэдактара газеты "Слова" Станіслава Мацкевіча бачна, што для высялення кс. Талочкі быў выкарыстаны данос кухаркі Адэлі Апановіч, сэнс даносу: 1) Талочка - інтрыган, 2) Віншаваў сваіх сяброў 25 сакавіка, 3) Выпісваў газету "Journal des Nations", якая цалкам легальна прадавалася ў Польшчы, 4) Кухарка паскардзілася сваёй гаспадыні, што падчас споведзі накрычаў на яе за тое, што яна не спавядалася па-беларуску.*

*Станіслаў Мацкевіч заўважыў, што кс. Талочка ў Вільні быў аточаны агульнай павагай, што сярод людзей, якія спавядаліся яму, было шмат ксяндзоў і вышэйшых касцельных іерархаў, што для таго, каб выселіць чалавека, трэба нешта большае, чым тое, што ён беларус і г. д. Заўважу, лічылася, што тагачасная віленская газета "Слова" вызнавала правую, абшарніцкую ідэалогію.*

*Cat. Kucharka Apanowiczowna ma glos // Slowo. 1939. № 4.*

*3. Кс. Талочка быў шматгадовым аўтарам газеты "Пшэглёнд Віленскі", у якую ён пісаў вельмі якасныя і высокаінтэлектуальныя артыкулы пад рознымі псеўданімамі.*

Асоба кс. Талочкі, справа яго высялення і "выкрывальныя" сведчанні сп. Апановіч дагэтуль не страчваюць сваёй актуальнасці. Да нас прыходзіць шэраг лістоў ад асоб, якія ведалі і працавалі разам з кс. Талочкам у тыя гады, калі ён нібыта арганізоўваў беларускую дзяржаву.

Выхаванец прытулка каталіцкага Таварыства стрыманасці і працы, прэфектам і апекуном якога доўгі час быў кс. Талочка, сп. Пётр Пашкевіч (вул. Шкаплерная, 34) даслаў наступны ліст:

*"Я з'яўляюся выхаванцам прытулка Таварыства стрыманасці і працы, дзе гадаваўся з 1912 па*



*1924 г. Праўда, я быў малым і мала што разумеў з таго, што рабілі старэйшыя, але калі гаворка ідзе пра згаданыя вышэй гады, дык гэты перыяд я вельмі добра памятаю, таму што меў ужо 14 - 16 гадоў. У 1916 г. кс. Напалеон Дзякавіцкі быў пераведзены з касцёла св. Стэфана пробашчам касцёла Усіх святых. Як раз у той час у касцёл Св. Стэфана прыехаў кс. Талочка. У гэты час, г. з. да 1918 г., кс. Ул. Талочка працаваў катэхетам у школе для хлопцаў у згаданым Таварыстве і, будучы катэхетам, мог мець нейкія ўплывы, напрыклад: выдзяляць сярод іншых дзяцей беларусаў ці, напрыклад, летувісаў і дрэнна ставіцца да палякаў. Але мы, старэйшыя выхаванцы, ніколі не адчувалі ад яго самых малых крыўдаў, ён заўсёды для нас быў "каханым айцом-прэфектам". Асабліва ён падабаўся нам, старэйшым, таму што любіў нас як бацька і адначасова, быў вельмі клапатлівым і спагадлівым да нашай цяжкай долі ў час, калі мы адчувалі найбольшы недахоп ежы. … кс. Талочка не саромеўся расказваць пра сябе і сваё паходжанне. Ён паказваў нам сплеценыя лапці, якія атрымаў з радзімы на свае імяніны. Пасля таго, як кс. Дзякавіцкі пайшоў капеланам у войска і да прыезду кс. Зянкевіча, кс. Талочка стаў фактычным апекуном прытулка. І менавіта гэты час добра запомніўся выхаванцам, бо тады кс. Тадочка паказаў сваю любоў і*





*самаадрачэнне. Ён загадаў перанесці ўсе запасы са сваёй кладоўкі ў нашу і еў разам з намі за агульным сталом. А калі ў 1919 г. прыйшлі бальшавікі, дык мы, яго выхаванцы, уратавалі яго жыццё ад кулі бальшавікоў. Гэту гісторыю мы запомнілі на ўсё жыццё. Нашага каханага Айца, 4 жаўнера з нацэленымі на яго вінтоўкамі, паставілі каля сцяны з ўзнятымі рукамі.*

*Я ўпэўнены, што такі добры чалавек не мог змяніцца і стаць настолькі палітызаваным, што ўлады былі вымушаны яго выселіць, ён быў гэтак аддады нам дзецям, няўжо ён мог перастаць любіць нас, дарослых і Вільню? Думаю, што гэты чалавек не заслужыў такога і будзе рэабілітаваны. Я заўсёды буду думаць пра яго гэтак, як тут напісаў, бо гэтак мне падказала маё сэрца і я ніколі не адмоўлюся ад сваіх слоў".*

Даслала ліст і землеўладальніца ў Навагрудскага павета, у якой служыла кухаркай Паўліна, верніца кс. Талочкі. Паўліна не толькі мае тую ж прафесію, што і Адэля Апановіч але і блізкая да яе па духу, бо яны з'яўляюцца сябрамі аднаго рэлігійнага таварыства:

*"Паўліна аднойчы дала мне,* - піша сп. К., - *прачытаць ліст святара да яе, які быў сапраўдным шэдэўрам стылю, ведання псіхалогіі і такту. Такія лісты інтэлігентнага чалавека да напаўпісьменнай дзяўчыны, звычайна пішуцца цяжка і штучна. Але гэты ліст быў даступны, зразумелы, поўны дробязяў, якія цікавілі Паўліну, але без намёку на фамільярнасць ці пляткарства. У лісце меліся мудрыя і вынаходлівыя адказы на яе пакуты з-за адсутнасці набажэнстваў, адказы як зрабіць так, каб не нарабіць шкоды сваім рэлігійным ці службовым абавязкам, ліст сведчыў пра вялікія веды аб розуме такіх Паўлінак. Нарэшце, выкарыстанне ім розных дэталяў, узятых, пэўна з яе лістоў, нават такой акалічнасці, як адсылка лістоў праз мне, каб Паўліна зразумела, што патрапіла да добрых людзей, якіх трэба цаніць, быць да іх зычлівай і г. д. Прыемна ўражаная, я спытала ў Паўліны пра гэтага ксяндза і даведалася што гэта вельмі заняты чалавек, які тым не менш ніколі нікому ні ў чым не адмаўляе, і для людзей ўсё робіць задарма. Ён звычайна працуе з беднай хатняй прыслугай. Абедае, толькі калі яго запрашаюць, і звычайна жыве гарбатай і булкамі.*

*З гэтага варта зрабіць выснову, што калі б кс. Талочка быў беларускім агітатарам, ён напэўна, скарыстаўся бы такой магчымасцю, як і ліставанне з верніцай, і не пісаў бы да яе лісты на вельмі добрай пальшчызне.*

*Калі б я не жыла ў памежжы, я б запрасіла гэтага ксяндза жыць да сябе. Такі знаўца беларускай душы вельмі прыдаўся б, бо нашы душпастыры - са Шлёнска, Падляшша, Люблінщчыны, калі меркаваць па ўсё большай блытаніне, якую яны тут робяць, неяк не вельмі могуць даць сабе рады з гэтымі душамі".*

Пра тое, што справа кс. Талочкі выклікала вялікі рэзананс, лепш за ўсё сведчыць той факт, што яна ўсхвалявала як сп. К. гэтак і кухарку Паўліну.

Сп. К. не паленавалася асабіста зайсці ў рэдакцыю і расказаць нам пра асобу сп. Апановіч, да гэтага часу невыразную і незаўважаную. Аказалася, што непаразуменне паміж сп. Адэляй і кс. Талочкам грунтуюцца зусім не на палітычных поглядах, а на маральнасці сп. Адэлі. І далей, каб пацвердзіць, што ў Вільні ёсць шмат людзей, якія ведаюць кс. Талочку і маюць пра яго зусім іншае меркаванне, чым сп. Апановіч і кампанія, мы запрасілі на інтэрв'ю двух яго выхаванцаў.

Вось успаміны людзей пра сваё дзяцінства, цесна звязаная з кс. Талочкаv.

Сп. Канстанты Раманоўскі, управа Віленскага прыватнага гандлёвага банка: *"Кс. Талочка ў 1920-22 гг. быў маім прэфектам у агульнаадукацыйнай школе прытулка Таварыства стрыманасці і працы. Сярод выхаванцаў было шмат летувісаў і беларусаў. Кс. Талочка, які прысвячаў нам шмат часу, адносіўся да ўсіх аднолькава. Ніколі не аддаваў перавагу беларускім ці летувіскім дзецям. Увесь час сваёй настаўніцкай працы ў школе, аддана выконваў свой абавязак і заваяваў аднолькавую любоў усіх дзяцей".*

Ігнацы Карчэўскі, адміністрацыйны сакратар скарбовай управы: *"Памятаю кс. Талочку з 1919-1922 гг., найбольш неспакойных і складаных часоў у Вільні. Кс. Талочка, у той час нікуды не з'язджаў, не меў парафіі і жыў у плябаніі касцёла св. Стэфана. Пробашчам гэтага касцёла былі па-чарзе: кс. Зянкевіч і кс. Кярсноўскі. У гэтай жа плябаніі жыў і я, тады 16-ці гадовы юнак, вучань 5-га класа гімназіі імя Жыгімонта Аўгуста і мой калега Ляховіч, зараз кс.-пробашч у Турмантах. Не было такога дня, каб мы не наведалі кс. Талочку. Нам дазвалялася прыходзіць да яго ў любы час па параду, падказку, кнігу і г.д. За 3 гады, якія мы правялі разам, ніводнага разу ён не згадаў пра беларускую справу. Ён не гаварыў пра яе, хоць мы абодва паходзілі з Віленшчыны і мелі той узрост, калі найбольш паддаешся ўсялякім ўплывам і ўгаворам - і гэта ў той час, калі беларуская тэма была найбольш актуальнай. Мы былі сведкамі таго, як кс. Талочку наведвалі розныя людзі з рознымі інтарэсамі, але ніколі не заўважалі нічога, звязанага з беларускім пытаннем.*

*Акрамя таго, кс. Талочка быў цалкам заняты грамадскай працай, дабрачыннай і навуковай. Пісаў артыкулы ў розныя выданні аднак у той час ніхто не меў да яго прэтэнзій. Таму тыя закіды, якія сёння выстаўлены супраць кс. Талочкі і з-за якіх ён выселены, лічу цалкам несапраўднымі і несправядлівымі".*

*Wychawankowie o ks. Tolloczce // Slowo. 1939. № 13.*

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***



# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Яўрэйскі выпуск: Віннікаў, Грынкевіч; яўрэі ў беларуска-індзейскіх сувязях*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-34 (53-86) за 2023 г.)*

Катэгорыю аўтараў яўрэйскага паходжання з Беларуска-індзейскай бібліяграфіі асобнай невычарпальнай выбаркай мы прадстаўляем ніжэй у "Літ.", даючы па адной публікацыі кожнага (у частці нашых аўтараў і ёсць толькі па адной, але некаторыя прадстаўленыя нават многімі дзясяткамі запісаў, ёсць і тыя, у якіх колькасць публікацый перавышае сотню). З іх аўтары, якія з'яўляюцца нашымі карэспандэнтамі або адрасатамі, - Азгур, Бараг, Букчын, Гуткін, Давідаў (Дэвідаў), Зім Г., Іофе Э., Левін У., Парэцкі, Рагачэўскі, Рубінштэйн, Смагорынскі, Тумаркін, Шэрман, Юрэвіч. Апошні - Лявон - самы актыўны ў ЗША даследчык беларускай дыяспары ў гэтай краіне.

Беларускія яўрэі, безумоўна, даюць адны з самых яскравых прыкладаў нашых дасягненняў у індзеяністыцы і сферах каля яе.

Мы не маем канчатковай пэўнасці з паходжаннем жонкі першага з Галдуотэраў, яшчэ Гольдвасера, - сям'я гандлявала з індзейцамі ў Арызоне і нават мела пры гэтым цялесныя пашкоджанні ад апачаў. У адным яўрэйскім выданні пададзена, што Sarah Nathan Goldwater была з Гародні. Верагоднасць гэтага нізкая, бо ўсё ўказвае на яе



Ленинград, 12 II 1991 г.

Уважаемый тов. Симаков!

К сожалению, об Аврааме Моисеевиче Белове (Элинсоне) могу сообщить немногое. Я работал с ним в 1954-55 г.г. над „Падением Теночтитлана"; его ведению подлежала литературная сторона, не научная. Больше по индейской тематике он не писал. В начале 70 г.г. А. М. Белов выехал в Израиль. Писем от него я не получал, и о дальнейшей его судьбе не знаю. „Падение Теночтитлана" вышло, кроме русского издания, на ~~русском~~ украинском, словацком, румынском и латышском языках.

Искренне

[подпись] / Р. Кинжалов

доктор ист. наук, профессор.

**Letter from Rostislav Kinzhalov, Kunstkamera Кинжалов 1991-02-12 RE Avraam Belov and his contribution to the book about the conquest of Mexico**



« תולדות והשכלה »

«ИСТОРИЯ и ПРОСВЕЩЕНИЕ»

ГОМЕЛЬСКАЯ ЯУРЭЙСКАЯ ГІСТАРЫЧНА-АСВЕТНІЦКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ «ТАЛДОТ ВЭАСКАЛА»

GOMEL JEWISH HISTORICAL AND EDUCATIONAL ORGANIZATION «TOLDOT VEHASKALA»

Республика Беларусь, 246049, г.Гомель, 60 лет СССР, 23—172, тел. 48-01-72, 48-15-44.

23—172, 60th Anniversary of the USSR Street, Gomel, 246049 Republic of Belarus Tel. 480172, 481544

Основатели: учредитель Эдуард Гуткин, Гомель,
спонсор Гарри Гуткин, Виннипег
при содействии:
Всемирная еврейская религиозная организация «АГУДАТ ИСРАЭЛЬ»;
Ассоциация гуманистического иудаизма, Москва;
Историческое общество Западной Канады;
Израильский информационный центр, Минск;
Фонд социальных гарантий культуры «Творчасць», Гомель

Founder Eduard Gutkin, Gomel
sponsor Harry Gutkin, Vinnipeg
in cooperaton with:
World Jeurish Religious Organization «Aghudat Israel»;
Association for Humanistic Judaism, Moscow;
the Historical Socety of West Canada;
the Isralean Informatonal Center, Minsk;
the Foundation for Socal Guarantees of Culture «Tvorchast» («Creation»), Gomel

***Ініцыятыва Э. Гуткіна - Гомельская яўрэйская гістарычна-асветніцкая арганізацыя "Талдот вэаскала" (вэгаскала). Gomel Jewish Historicasl and Educational Organization "Toldot vehaskala". Бланк арганізацыі. Не запоўніўся рэальнымі справамі. Ініцыятыва не атрымала развіцця, але спроба залічана. Адрасы і тэлефоны на бланку не актуальныя. Яўрэйскі актывіст М. С. Гарадзецкі, ветэран вайны, памёр***

